№ 3 (3846)

14 студзеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭМА ДНЯ

## У Саветах – дэмакраты

З 12 студзеня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў.

Дэмакратычныя партыі, аб'яднанні, рухі разам са сваімі прадстаўнікамі маюць стопрацэнтную магчымасць канчаткова пераканацца ў тым, ці можна ў нашай краіне на законных падставах перамагчы дзейсную ўладу, альбо яна, як і раней, апабіраючыся на дыктатарскі рэжым, пусціць у ход загадзя падрыхтаваныя сумніўныя прыёмы, і ў чарговы раз афіцыйныя вынікі галасавання будуць далёкімі ад рэальных.

У любым выпадку ў дэмакратаў ёсць шанц сур'ёзна пазмагацца за мандаты дэпутатаў мясцовых Саветаў. Без гэтага рашучага кроку нельга нават марыць пра дэмакратызацыю краіны, станоўчыя перамены ў жыцці кожнага беларуса.

Каб трапіць, скажам, у сельскі Савет, трэба заручыцца падтрымкай усяго ад 75 да 270 выбаршчыкаў (такая колькасць іх у мясцовых тэрытарыяльных акругах). Калі ў тых жа камісіях, сфарміраваных у большасці па волі раённых чыноўнікаў, нехта нахабна пойдзе на фальсіфікацыю вынікаў выбараў, то гэта лёгка будзе выявіць па свежых слядах – ужо раніцай тыя ж некалькі дзясяткаў выбаршчыкаў па просьбе кандыдатаў у дэпутаты пісьмова пацвердзяць, як яны галасавалі. Пасля чаго вінаватых у махлярстве – пад суд!

Пры вялікім жаданні дэмакратычныя вылучэнцы часткова могуць прайсці і ў раённыя, гарадскія, абласныя Саветы. Трэба толькі ўзяць пад кругласутачны кантроль кожную выбарчую камісію, кожнага яго члена, заваяваць давер грамадзян, настроіць іх на прынцыповы падыход да галасавання. Калі да людзей дойдзе, што ад іх пазіцыі, ад іх волевыяўлення залежыць іх лёс, – яны аддадуць галасы не за прадстаўнікоў улады, якая за 20 гадоў сябе моцна скампраметавала, а за дэмакратаў, носьбітаў новых, ліберальных падыходаў да ўладкавання жыцця ўсіх, хто жыве на тутэйшай зямлі.

А сапраўды, якая архіважная перамога была б, калі б дэпутатамі Мінскага гарадскога Савета сталі, напрыклад, Анатоль Лябедзька, Уладзімір Някляеў, Сяргей Калякін, Валерый Паўлаў, Пётр Краўчанка, Андрэй Дзмітрыеў, Зінаіда Бандарэнка, Станіслаў Багданкевіч, Брэсцкага абласнога ці гарадскога Савета – Анатоль Ляўковіч, Ігар Маслоўскі, Аляксандр Мех, Мікалай Коўш, Аляксандр Мікулін, Гродзенскага аблсавета ці гарсавета – Аляксандр Мілінкевіч, Іван Шэга, Ірына Вештард, Вячаслаў Швед і іншыя. А што, няма вядомых, аўтарытэтных дэмакратаў на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне? Ёсць, і іх месца ў рэгіянальных Саветах!

Выбары ў мясцовыя Саветы – ці не адзіная на сёння магчымасць для дэмакратычных структур прадэманстраваць сваю сілу, паказаць на практыцы, што яны не віртуальныя, а з вялікім людскім арганізацыйным патэнцыялам, што яны здольны дабівацца перамогі ў найскладанейшых умовах. Не трэба пасаваць перад лукашэнкаўскімі служкамі, наадварот, неабходна зрабіць усё, каб яны не змаглі сфальсіфікаваць вынікі галасавання.

Клін выбіваюць клінам – сцвярджае народная мудрасць. І супраць сілы тых, хто мяркуе і далей жыць не па дэмакратычных законах, ігнаруючы агульначалавечыя каштоўнасці, дэмакраты Беларусі, калі яны на самай справе такія, абавязаны выставіць сваю сілу – арганізаваную, згуртаваную, пераможную. Гэтага патрабуе час, на гэта спадзяюцца ўсе людзі добрай волі нашай шматпакутнай Беларусі.

## Выключылі...

З саюза пісьменнікаў Беларусі аднагалосным рашэннем членаў Прэзідыума выключаны кіраўнік партала «ЛітКрытыка» **Аляксандр Новікаў.**

У мінулым годзе публікацыі Новікава на сайце «ЛітКрытыка» ўскосна паўплывалі на тое, што з СПБ выйшлі пяць вядомых творцаў: празаікі Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч і Валер Гапееў, паэтка Раіса Баравікова і дзіцячая пісьменніца Алена Масла.

СТОП-КАДР



11 студзеня ў Катэдры Св.Панны Марыі, што на плошчы Свабоды ў Мінску, адбылося вянчанне сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Паўла Севярынца і яго жонкі Вольгі.

НУ І НУ!

## Анатоля Лябедзьку везлі ў бок крэматорыя і Курапат...

Сёння а 10-й раніцы ў судзе Савецкага раёна Мінска адбудзецца разгляд адміністрацыйнай справы старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоля Лябедзькі.** Абвінавачваецца ён у парушэнні *"парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства".* Віна палітыка ў тым, што ён разам з Віктарам Карняенкам збіраў подпісы гараджан за адмену аўтападатку, а заадно і за адстаўку ўрада. Нягледзячы на вялікую колькасць супрацоўнікаў міліцыі ў форме і ў цывільным, а таксама натоўп журналістаў, многія людзі ахвотна падпісваліся і выказвалі свае абурэнні наконт новаўвядзення. Калі палітыкі пайшлі ў метро, то за імі крочылі больш за дзясятак людзей у цывільным з рацыямі. Яны зайшлі разам з імі ў перапоўнены вагон, а калі дзверы зачыняліся, Лябедзька і Карняенка раптам перадумалі ехаць далей і выскачылі на перон. Службоўцам жа давялося пракаціцца...

Ці не помстай стала затрыманне Анатоля Лябедзькі ў двары дома праз тыдзень? Палітык не выключае і версію, што сабраць каля пад'езда людзей у цывільным мог запіс у "Фэйсбуку" аб намеры працягнуць збор подпісаў каля Камароўкі. Пры гэтым ён толькі паспеў крыкнуць нумар сваёй кватэры, каб папярэдзілі сваякоў пра затрыманне. "*Крыкнуў і адразу атрымаў па нырках*", – распавёў лідар партыі. *"Мяне спачатку адвезлі ва ўпраўленне аховы правапарадку і прафілактыкі Савецкага раёна. Там мяне ўразіла, у якіх умовах працуюць міліцыянеры. Брудныя сцены, падрапаная падлога, разбітая мэбля, смурод, нейкая машкара... Пра нармальнае абсталяванне, камп'ютары нават размовы няма. Што гэта? Ці можна людзям працаваць у такіх умовах? І гэта на фоне будаўніцтва палацаў і катэджаў..."*

Але на гэтым усё не скончылася.

*– Недзе праз тры з паловай гадзіны пасля таго, як на мяне склалі пратакол, людзі ў цывільным вывелі мяне з міліцыі, пасадзілі ў машыну і праз некалькі хвілін на вялікай хуткасці, пад 140 кіламетраў у гадзіну, павезлі па кальцавой у бок Курапатаў. Там, каля "Бульбаш-хола", развярнуліся і павезлі мяне да гарадскога крэматорыя. Потым адтуль павезлі ў бок Вяснянкі – мікрараёна, дзе я жыву. Там я і выйшаў. Навошта яны так рабілі? Думаю, што гэта ініцыятыва нейкага мясцовага начальніка, бо ў вышэйшага кіраўніцтва, мне падаецца, хапіла б розуму гэтым не займацца. Яны ж самі разумеюць, што на мяне такія метады не падзейнічаюць, бо я ж маю пэўную "крэдытную гісторыю". Разлік быў на звычайных людзей, каб яны баяліся ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Лічу, што насамрэч гэта праява нейкага псіхозу. Калі адзін, ці двое, ці дзесяць чалавек збіраюць подпісы, то ніякага парушэння ў гэтым няма. Улады папросту баяцца нават самай маленькай іскры, каб толькі не разгарэлася полымя. Стварылася настолькі выбухованебяспечная сітуацыя, што яны імкнуцца патушыць самы маленькі ачаг у зародку. Яны баяцца любых праяўленняў, якія выходзілі б за рамкі ўласна палітычнай апазіцыі.*

*Я ўжо не кажу, што міліцыянеры дапусцілі процьму парушэнняў. Фактычна адбылося выкраданне чалавека, фізічны гвалт, адмова ў прадастаўленні адваката, магчымасці патэлефанаваць дадому і гэтак далей. Я буду звяртацца да міністра, тым больш што я паабяцаў гэта супрацоўнікам міліцыі...*

У міліцыі Савецкага раёна і ў Мінскім гарадскім упраўленні ўнутраных спраў "Народнай Волі" не адказалі, з якой мэтай людзі ў цывільным зладзілі затрыманаму палітыку "экскурсію", не змаглі адказаць на пытанне, ці былі запланаваныя для наведвання іншыя аб'екты, напрыклад, "Лінія Сталіна".

Калі суд усё ж пагодзіцца з абвінавачаннямі міліцыянераў, то Анатоля Лябедзьку могуць пакараць штрафам ад 20 да 50 базавых велічынь альбо арыштаваць ад 10 да 15 сутак. Палітык сказаў, што звяртацца ў пракуратуру будзе па выніках судовага пасяджэння.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АНОНС

## ЗА ВОЛЮ!

*Так, гісторыя помніць, калі за ВОЛЮ, за СВАБОДУ, за НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ роднай зямлі мужныя змагары аддавалі жыцці. Сведчаннем таму – падзеі 1863–1864 гадоў на Гарадзеншчыне.*

*Шкада, але мы, нашчадкі герояў-каліноўцаў, так мала ведаем пра тое, што сапраўды адбывалася пазамінулым векам у нашых краях. Старонкі кнігі **Івана Будніка**, якія, на жаль, ніяк не могуць выйсці масавым тыражом і якія мы пачынаем друкаваць у сённяшнім нумары "Народнай Волі" (гл. 5–6-ю стар.), – гэта жывая дакументалістыка тых далёкіх часоў, яскравы ўзор барацьбы лепшых сыноў і дачок нашай Радзімы за тое, каб на тутэйшых абсягах уладарыў не чужаземец, а свой народ.*

*Раім чытачам азнаёміцца з серыяй публікацый І.Будніка ў гэтым і наступных нумарах "Народнай Волі".*

ФАКТ

## Раздача...

Напярэдадні Новага года па старым стылі Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды. Па выніках мінулага года – правальнага ледзь не па ўсіх паказчыках – ордэн Айчыны III ступені атрымалі вельмі вядомыя персоны.

Згодна з заканадаўствам, ордэн Айчыны – вышэйшы ордэн Рэспублікі Беларусь. Вышэйшай ступенню ордэна Айчыны з'яўляецца I ступень.

Прысуджаецца:

– за выдатныя дасягненні ў вытворчай, навукова-даследчай, сацыяльна-культурнай, грамадскай, дабрачыннай і іншых сферах дзейнасці, накіраванай на павышэнне дабрабыту людзей і ўмацаванне магутнасці краіны;

– за мужнасць і адвагу, праяўленыя пры абароне Айчыны і яе дзяржаўных інтарэсаў, забеспячэнні законнасці і правапарадку;

– за вялікія заслугі ў развіцці эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных сувязяў паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі краінамі.

Такім чынам, вышэйшы ордэн краіны атрымалі:

**Валерый ВАКУЛЬЧЫК** – старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Ні ў барацьбе з маштабным наркатрафікам, ні ў барацьбе з гандлем зброяй ведамства пад яго кіраўніцтвам так і не адзначылася. Затое працягвае займацца палітычным вышукам. Унесены ў спіс неўязных у краіны ЕС.

**Ігар ШУНЕВІЧ** – міністр унутраных спраў. Яшчэ адзін фігурант так званага чорнага спісу беларусаў, якіх цывілізаваны свет не жадае бачыць на сваёй тэрыторыі. Увесь мінулы год МУС скаланалі скандалы, у тым ліку звязаныя са збіццем і нават забойствам людзей супрацоўнікамі міліцыі.

**Юрый ЖАДОБІН** – міністр абароны. Цяжка сказаць, якія канкрэтна заслугі ацэнены высокай узнагародай, але наўрад ці беларускія вайскоўцы сталі адчуваць сябе лепей.

**Андрэй КАБЯКОЎ** – кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта. Толькі ў лістападзе мінулага года Аляксандр Лукашэнка заявіў, што за правал мадэрнізацыі і кадравай палітыкі выносіць Кабякову "строгую вымову і апошняе папярэджанне". Цяпер за тое ж узнагародзіў?

Ордэнам Пашаны адзначаны памочнік прэзідэнта – галоўны інспектар па Магілёўскай вобласці **Генадзь Лаўранкоў** і старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў **Лідзія Ярмошына**.

Нагадаем, што Магілёўская вобласць па паказчыках далёка не лепшая ў краіне. Наадварот, па выніках 11 месяцаў мінулага года яна дэманстравала найменшыя паказчыкі па валавым рэгіянальным прадукце.

Ну а што тычыцца Лідзіі Ярмошынай, то цяжка ўзгадаць больш адыёзную асобу ў беларускім кіраўніцтве. Вынікі ніводных выбараў, праведзеных пад яе кіраўніцтвам, у цывілізаваным свеце не былі прызнаны. Унесена ў спіс неўязных у краіны ЕС за ўдзел у парушэннях правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Шэраг палітычных і грамадскіх актывістаў спрабуюць дабіцца ўзбуджэння супраць спадарыні Ярмошынай крымінальнай справы, паколькі Аляксандр Лукашэнка падчас інтэрв'ю неаднаразова прызнаваўся, што аддаваў каманду фальсіфікаваць вынікі выбараў і ЦВК рабіў гэта.

Тым не менш Аляксандр Лукашэнка высока адзначыў такую працу. Больш за тое, ён удастоіў дзяржаўных узнагарод... членаў каманды Прэзідэнта Беларусі па хакеі. Так, ордэнам Пашаны ўзнагароджаны Вадзім Бекбулатаў, медалём "За працоўныя заслугі» – Дзмітрый Баскаў, Алег Мікульчык і Сяргей Шыткоўскі. Ганаровае званне заслужанага трэнера Рэспублікі Беларусь прысвоена Андрэю Гусаву, заслужанага майстра спорту Рэспублікі Беларусь – Андрэю Асташэвічу, Паўлу Беламу, Сяргею Задзялёнаву, Андрэю Міхалёву і Генадзю Савілаву.

Дарэчы, з новых заслужаных майстроў спорту толькі Сяргей Задзялёнаў – дзеючы хакеіст. Ён выступае за мінскае "Юнацтва". Павел Белы і Генадзь Савілаў – бізнесмены. Андрэй Асташэвіч – дырэктар спарткомплексу "Раўбічы", а Андрэй Міхалёў у сакавіку мінулага года быў дыскваліфікаваны Міжнароднай федэрацыяй хакея на 2 гады за ўжыванне допінгу.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РЕПЛИКА

## Не смешно

Спортсмены говорят, что это смешно. Хоккеисты-ветераны-любители из президентской команды получили звания заслуженных мастеров спорта Республики Беларусь – и настоящим спортсменам такая новость показалась смешной.

Ведь это – как человеку, иногда вкручивающему дома лампочки, присвоить звание заслуженного энергетика.

Как скупердяйку-тещу наградить званием заслуженного экономиста.

Как деятеля, умеющего написать на заборе известное слово из трех букв, назвать писателем.

Это смешно, потому что в советское время "заслуженных" давали ТОЛЬКО олимпийским чемпионам!

**Владимир Парфенович** – заслуженный мастер спорта. Трехкратный олимпийский чемпион, единственный в мире байдарочник, выигравший три золотые медали в рамках одних Олимпийских игр.

**Екатерина Карстен** – заслуженный мастер спорта. Первая и единственная двукратная олимпийская чемпионка в истории независимой Беларуси, многократная чемпионка мира в гребле на одиночке.

**Виталий Щербо** – заслуженный мастер спорта. Знаменитый гимнаст, шестикратный олимпийский чемпион, единственный в истории неповец, выигравший шесть золотых наград на одних Играх, один из лучших гимнастов всех времен, единственный мужчина, который становился чемпионом мира во всех восьми дисциплинах – личном и командном первенствах, а также на всех шести снарядах...

Не знаю, какое затмение должно найти, чтобы одинаково оценивать заслуги перед спортом Виталия Щербо, Саши Герасимени, Дарьи Домрачевой, Сергея Мартынова и хозяина строительных компаний Павла Белого.

Не знаю, чем надо руководствоваться, чтобы в итоге поставить в один ряд спортсменов Александра Глеба, Викторию Азаренко, Макса Мирного и каких-то Геннадия Савилова и Сергея Заделенова.

В конце концов, это совершенно противоречит белорусскому закону о государственных наградах, который элементарно не дозволяет присваивать почетные звания за меткость попадания в писсуар или в плевательницу.

Так, статья 59 этого закона гласит: "Почетное звание «Заслуженный мастер спорта Республики Беларусь» присваивается спортсменам, в том числе спортсменам-инвалидам, за достижение высоких результатов на Олимпийских, Паралимпийских и Всемирных играх, чемпионатах, первенствах и Кубках мира и Европы".

Допустим, критерий "высокий результат" – это критерий оценочный. Кто-то может утверждать, что награждать нужно только за первое место, за "золото", кто-то – что само попадание на Олимпиаду достойно награды. Но все остальное абсолютно понятно прописано: для получения звания ЗМС как минимум нужно хотя бы участвовать не в дворовых соревнованиия и не в рождественских и всяких подобных шоу.

Игроки президентского хоккейного клуба просто-напросто не участвовали в турнирах, за которые может быть присвоено звание "Заслуженный мастер спорта". Они не показали на них никакого результата – ни высокого, ни низкого, потому что их там не было и быть не могло. Ни на Олимпиаде, ни на Кубке мира, ни на первенствах Европы...

Они, по большому счету, не спортсмены. Они – обслуживающий персонал. Они – те, кто не дает главе государства скучать, кто и его развлекает, и сам развлекается, кто тешит его самолюбие и не забывает о своем.

Как по мне, так они больше подошли бы к номинациям "Сфера обслуживания" или "Заслуженный изобретатель", но никак не в категорию "Спорт".

Дать звание заслуженного мастера спорта людям, заслуги которых перед спортом заключаются в том, чтобы по первому звонку явиться развлекать президента игрой в хоккей, это плевок в настоящих спортсменов.

Это плевок в тех, кто через пот и кровь, через годы и десятилетия изнурительных тренировок, через травмы, боль и тяжелую работу шел к своим победам.

Это не смешно.

**Светлана КАЛИНКИНА.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Переломный момент в спасении Беларуси

*Людям, нам кажется, надоели «междусобойчики» между властью и оппозицией. Оппоненты режима кричат: «Вот она, диктатура! Долой!» Власть им отвечает: «Вот они, отмороженные! Ату их!» И так – 20 лет.*

А что же в реальной жизни?

Согласно опросу, проведенному в декабре 2013 года Независимым институтом социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ), зарегистрированным в Вильнюсе, за кандидата – сторонника Лукашенко на местных выборах 2014 года собираются голосовать 30,2% белорусов. За кандидата – противника Лукашенко готовы отдать свой голос 21,9% респондентов, а за «иного кандидата» – 34,4%. Будь сегодня президентские выборы, лишь 13,9% респондентов проголосовали бы за представителя оппозиции, большинство же – «за любого другого кандидата», кроме ставленника власти или оппозиционера.

На наш взгляд, главной ошибкой лидеров белорусской оппозиции является упрощенное противостояние власти по любым аспектам, что не способствует демократическим активистам (даже самым креативным) прорваться в системный политический процесс. Внесистемная оппозиция, ее самые достойные и мужественные представители, так и будут оставаться вне системы, а власть будет оставаться в руках системы.

Большинство белорусов выступает за реальную политическую альтернативу, которая откроет дорогу устойчивому развитию страны. Люди правильно чувствуют, что успешная Беларусь – это консолидированная Беларусь. Следовательно, перспектива остается за теми политиками, которые солидаризируют белорусский социум, его элиты, белорусскую нацию.

Сегодня, мы, белорусы, стоим перед дилеммой: политическая модернизация и развитие всех сфер нашей жизни или радикализация, «майданизация» и дестабилизация белорусского социума. Первейший вопрос, который стоит перед ответственными политиками: как уйти от подобной дилеммы и есть ли для этого объективные предпосылки.

Объективные предпосылки очевидны. У власти и оппозиции одна страна, это, во-первых. Во-вторых, сегодня, слава Богу, элита (власть) и контрэлита (оппозиция) декларируют одни и те же ценности – независимость и суверенитет.

В-третьих, страна за годы постсоветской истории вышла на качественно новый виток развития и нуждается в новом «общественном договоре» между гражданами и государством. Сегодня примерно 30% белорусов, которых условно можно назвать «средним классом», хотят стабильного развития и желают влиять на общественные и политические процессы. Эти люди занимают центристскую позицию, и те из них, кто является оппонентами власти, составят ядро конструктивной оппозиции, а другие станут опорой партии власти.

В-четвертых, за это время сформировался или находится в стадии формирования новый класс государственников («новый номенклатурный класс»). Многих из них уже не устраивает сегодняшняя ситуация. Конечно, это еще не национальный класс – они понимают одно: сильное государство – хорошие доходы. Сегодня эти люди, как и власть, перехватили все лозунги «пазьняковской» оппозиции: они тоже говорят о независимости, суверенитете, о белорусской культуре. Этот класс – корпоративный. При случае он может играть по своим правилам. Лидеры оппозиции должны были бы увидеть этот новый класс, начать с ним работу – что, кстати, пытается делать наш оргкомитет «Социал-демократы за диалог и консолидацию».

Все отмеченное подтверждает: пора изменить стратегию и тактику демократических сил.

Предлагаемая нами стратегия «За диалог и консолидацию», думается, отвечает новым белорусским реалиям, позитивным перспективам развития страны, новым задачам, стоящим перед молодым белорусским государством.

Положения стратегии (развитие диалога между элитой и контрэлитой, место оппозиции в системном политическом процессе, модернизация политической системы, формирование конструктивной оппозиции, консолидация белорусского социума, проведение властью «Новой политики» и т.д.) вселяют определенную надежду. Наши предложения: цивилизованно, по-европейски, выстраивать реальный политический процесс, развивать диалог внутри страны и выстраивать нормальные, добрососедские отношения с Евросоюзом – вызывают, мы уверены, позитивный интерес у многих белорусов.

**(Окончание на 2-й стр.)**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Расплата за головотяпство

*Прочитал в «Народной Воле» за 3 декабря 2013 г. статью Эдуарда Пензина «Блеск и нищета», стало больно не только за Кобринский консервный завод, но и за всю отрасль переработки плодоовощной продукции в Брестской области, которую постигла такая же участь, как и завод. Нет ГО «Брестплодоовощпром», руководившего этой отраслью. Некогда лучшее объединение в Беларуси прекратило свое существование.*

Мне пришлось работать в объединении в 2000–2006 годах, поэтому я знаю не понаслышке о том, как медленно погибала отрасль переработки плодоовощной продукции.

Первый звонок прозвучал в августе 2000 года. Наши консервы стали неконкурентоспособны на российском рынке по цене. Да и товарный вид был не из лучших. Так, соки выпускались в 3-литровых стеклянных банках с невыразительными этикетками. Россияне не имели претензий по качеству к нашим консервам, но просили сок поставлять в тетрапаках или хотя бы в стеклянных бутылках. Первая линия розлива сока в тетрапаки появилась на Пружанском консервном заводе спустя несколько лет. Линия бэушная, отработала в Испании 18 лет, но мы рады были и такой. Аналогичные линии по переработке зеленого горошка смонтировали и на Кобринском заводе.

К 2003 году наши консервы по цене были уже выше на 20–30%, чем закупаемая Россией аналогичная продукция из тех же Венгрии и Болгарии. Дешевле поставляли консервную продукцию и российские заводы, которые начали к этому времени восстанавливаться.

В 2002 году я был командирован в г.Мурманск на выставку продовольственных товаров. С помощью советника нашего посольства в РФ по г. Мурманску мы встретились с представителями бизнеса, обеспечивающими продовольствием не только Мурманскую область, но и большую часть российского побережья Ледовитого океана. Нам предлагали наши земляки (в Мурманске очень много белорусов-бизнесменов) различные варианты. Мы могли открыть Торговый дом, для этого нам за символическую цену в аренду предлагали 4-этажное здание. Тогда эта ниша была свободна, мы могли вагонами поставлять продукты питания. Взамен по довольно низким ценам могли поставлять в Беларусь рыбные консервы, большой ассортимент мороженой, копченой, вяленой и сушеной рыбы. Лучшие сорта мороженой рыбы стоили не больше одного доллара США за килограмм, цена копченого палтуса – в три раза дешевле, чем в наших магазинах.

Приехав из командировки, я написал служебную записку председателю облисполкома, где изложил возможности поставок продовольственных и промышленных товаров в этот регион. Реакции на мою записку не последовало.

Так мы теряли рынки сбыта.

Много было и других объективных и субъективных причин спада производства. Не смогли наши заводы воспользоваться ситуацией, когда после развала СССР Россия на ура в течение восьми лет закупала наши продукты питания, когда у нас цены были значительно ниже российских. Так, цены на продукты питания в 1999 году в России были в разы выше наших. За два года мы успели потерять это преимущество.

За это время можно было модернизировать и перепрофилировать всю отрасль, но время бездарно упустили. Многие сельхозпредприятия такой ситуацией воспользовались. Я знаю хозяйство в Гродненской области, которое в эти годы сделало ставку на выращивание овощей и их реализацию в Россию. За счет поступления валюты они сумели полностью обновить машинно-тракторный парк, реконструировать и построить новые животноводческие фермы и решить другие производственные вопросы. Сегодня это одно из лучших предприятий не только на Гродненщине, но и в Беларуси.

Руководители консервных заводов этой ситуацией не воспользовались. Все жили одним днем. Восемь лет проспали, оставшись со старым оборудованием и такими же технологиями. Сегодня можно лишь спорить о том, кто больше повинен в этом – директора заводов, руководство объединения, облисполком и райисполкомы, республиканский концерн. Видимо, в какой-то степени виновны все, в том числе и правительство, проспавшее целую отрасль, которая сегодня могла бы поставлять продукцию на экспорт и стать источником поступления валюты.

С распадом Советского Союза большое количество заводов области не нужно было, особенно мелких. Сохранить Кобринский, Пинский, Горынский консервные заводы имело смысл. Ведь в лучшие годы Кобринский консервный завод в бытность директором завода Анны Николаевны Шутро производил до 30 миллионов условных банок консервов в год. К 2005 году производство снизилось более чем в пять раз. Продукция Горынского завода славилась качеством. Пинчане выпускали уникальные соки с мякотью, пользующиеся большим спросом. Нужно отметить, что в 2005–2006 годах облисполком все же пытался реанимировать Кобринский и Горынский заводы, выделялись деньги из бюджета, однако эффективно их использовать директора заводов не смогли.

Экономику Кобринского и Горынского заводов сильно подорвало приобретение дорогостоящих английских комбайнов для уборки зеленого горошка. Техника, конечно, хорошая и нужная, но без помощи государства это приобретение оказалось в финансовом плане слишком обременительным для заводов. Были и остаются нерешенными вопросы по таре, упаковке, то есть все то, что связано с внешним видом продукции. Слабо решались вопросы рекламы, внедрения в производство нового сортимента и так далее. Все это негативно сказывалось на работе отрасли.

Наверное, руководству страны пора определиться с вопросом, как развиваться Беларуси дальше. Ставку делать на промышленность, промышленные предприятия, продукция которых пользуется спросом на рынке, там, где мы монополисты. Остальные предприятия перепрофилировать, продать инвесторам, если их кто купит, сдать в аренду и прочее. К перерабатывающей отрасли аграрного сектора нужно повернуться лицом. Она станет своеобразной палочкой-выручалочкой в любой кризис. Людям есть всегда хочется, пробиться на рынки продовольственных товаров значительно легче, нужна только разворотливость соответствующих служб. Думаю, что рано или поздно придется возвращаться к этому вопросу, что-то можно будет еще восстановить, что-то построить заново, дело лишь в затратах, во что все обойдется. Но наш народ крепкий, расплатимся в очередной раз за чье-то головотяпство.

В работе предприятий особую роль должны играть службы маркетинга. К сожалению, пока у нас очень мало толковых специалистов этого профиля, плохо их готовят и в учебных заведениях. Мы не умеем торговать и очень медленно этому учимся.

Всем известно: процветание любого предприятия зависит от руководителя и только от него. Если будут даже сильные специалисты на производстве, а руководитель слабый – ничего путного не получится. Отрицательную роль в обстановке на производстве играет и нынешняя контрактная система. Основное кредо системы: я – начальник, ты – дурак. Не может быть нормальной, творческой обстановки в любом коллективе, когда специалисты, рабочие боятся слово сказать самодуру или некомпетентному начальнику, зная, что по окончании контракта он окажется без работы. А бестолковых руководителей в последнее время развелось много, потому что кадровые вопросы пущены на самотек. Дожились до того, что сегодня не только сложно найти руководителя предприятия, но видим эти проблемы и при назначении чиновников более высокого ранга. Хотя, казалось, чего было мудрить: взять за основу советскую систему подготовки и подбора кадров, там было много положительного, редко дураки попадали на руководящие должности. Да и трудовое законодательство было неплохо проработано. Но у нас пошли по более легкому пути – назначили руководителя, как говорят, с улицы, через пару месяцев его уволили, назначили другого – опять уволили, и так далее: авось попадется толковый организатор или специалист. Но чудеса случаются редко, а в итоге имеем загубленные, неподъемные заводы, фабрики, колхозы...

Не знаю, с чьей подачи была принята контрактная система, но это большая ошибка руководства страны, и исправлять ее никто не думает. Наверное, многих такие отношения в трудовых коллективах устраивают, легко ведь руководить покорным стадом. Но в конечном итоге от этих проблем страдает производство. Я 25 лет отработал руководителем и знаю, что есть много форм и методов воздействия на нерадивых работников без контрактной системы. Это придумано своеобразное пособие руководителям-бездельникам. Рабы ни в одном государстве хорошо не работали, а наша контрактная система чем-то напоминает такой строй применительно к XXI веку. Результаты этой системы только начинаем пожинать.

**А.КРАВЧУК, пенсионер.**
*Кобринский район.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Что с делом директора фабрики “Слодыч”?

*В конце декабря прошла небывалая новость о том, что за незаконную прослушку своих подчиненных задержана директор фабрики “Слодыч”. Расскажите, чем закончилась эта история? Отпустили ли руководительницу фабрики или расследование продолжается? Может быть, ее выпустили из следственного изолятора на свободу под залог?*

***Петр КУХАРСКИЙ,***
***Минский район.***

Как рассказали “Народной Воле” в Следственном комитете, **Татьяна Селих** по-прежнему находится за решеткой – избранную ранее меру пресечения ей не изменяли.

Директору фабрики “Слодыч” предъявлены обвинения по трем статьям Уголовного кодекса. Ее обвиняют в незаконном приобретении специальных технических средств, предназначенных для негласного получения информации, злоупотреблении служебными полномочиями и нарушении тайны телефонных переговоров или иных сообщений.

По данным следствия, ущерб, который нанесла Татьяна Селих своей деятельностью, оценивается в более чем 200 миллионов белорусских рублей (в эквиваленте – больше 20 тысяч долларов). Видимо, на эту сумму за счет предприятия она и прикупила «жучки». Кстати, это квалифицируется как *«особо крупный размер».*

Любопытно, что о задержании Татьяны Селих стало известно 19 декабря минувшего года. В этот же день на фабрику приезжал замминистра внутренних дел **Николай Мельченко** вместе с начальником РУВД Партизанского района Минска **Максимом Свиридом**. Как сообщает сайт фабрики, генерал Мельченко выступил с докладом *“Актуальные вопросы обеспечения общественной безопасности».* Успела ли Татьяна Селих прослушать лекцию или она уже отвечала на вопросы следователей – точно не известно...

Татьяна Селих была назначена директором фабрыки “Слодыч” в 2009 году. Раньше занимала должность заместителя директора по логистике. В минувшем году она удостоилась звания «Женщина года».

**Марина КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Супадзенне?

Як стала вядома, днямі першы намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва **Ірына Архіпава** вызвалена ад займаемай пасады.

Нагадаем, што яе муж **Аляксандр Архіпаў** у лістападзе мінулага года быў адхілены ад пасады намесніка генпракурора і звольнены з органаў пракуратуры за *«здзяйсненне дзеянняў, што дыскрэдытуюць званне пракурорскага работніка і не сумяшчальныя са службай у органах пракуратуры».* У дачыненні да яго была ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 арт.424 КК (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі). 14 лістапада, прымаючы з дакладам генпракурора Аляксандра Канюка, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Архіпаў, будучы на пасадзе намесніка генпракурора, паспрабаваў замяць справу, звязаную з гібеллю чалавека ў ДТЗ.

У Следчым камітэце і Генпракуратуры журналістам сказалі, што «справа Архіпава» ў вытворчасці гэтых ведамстваў не знаходзіцца. Расследаваннем гэтай крымінальнай справы займаецца Камітэт дзяржбяспекі. У КДБ сказалі, што пакуль новай інфармацыі па гэтай справе няма.

СІТУАЦЫЯ

# Іна Соркіна: “Давайце дачакаемся канчатковага рашэння...”

*У Гродзенскім універсітэце працягваюцца “чысткі” – стала вядома, што на пасаду дацэнта не абрана кандыдат гістарычных навук Іна Соркіна.*

Як паведаміла ў “Фэйсбуку” “Гродзенская бібліятэка”, такое рашэнне прыняў Савет факультэта гісторыі, турызму і камунікацыі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*«Няма іншых прычын, акрамя палітычных, выкідаць (іначай назваць нельга) з універсітэта навукоўца і выкладчыка, які мае 70 навуковых публікацый за апошнія пяць гадоў. Не існуе іншых прычын, акрамя палітычных, выкідаць з працы аўтара выдатнай манаграфіі «Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XIX стст.» Не існуе іншых прычын, акрамя палітычных, выкідаць з універсітэта калегу, якая даводзіла несправядлівасць і шкоднасць для беларускай навукі і прэстыжу ўніверсітэта звальнення гісторыкаў Вячаслава Шведа і Андрэя Чарнякевіча»,* – адзначаюць калегі ў паведамленні.

Нагадаем, раней Савет ГрДУ на пасаду прафесара па конкурсе не абраў доктара гістарычных навук **Вячаслава Шведа**, хоць напярэдадні спадар Швед быў узнагароджаны медалём “За заслугі перад Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы”. Апальнае “Гродназнаўства” каштавала гісторыку спачатку паловы стаўкі, а пасля і працы наогул.

Аб сваім дабраахвотным сыходзе з універсітэта на знак пратэсту супраць ціску на калег у адкрытым лісце да кіраўніка Гродзенскага аблвыканкама заявіў старшы выкладчык кафедры тэорыі дзяржавы і права **Ігар Кузьмініч.** Яшчэ раней, восенню 2012 года, з універсітэта быў звольнены адзін з аўтараў кнігі “Гродназнаўства” **Андрэй Чарнякевіч.** Прычым экс-старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Сямён Шапіра** прызнаўся, што асабіста загадаў звольніць Чарнякевіча: *«Наконт Чарнякевіча прымаў загад я асабіста*, – сказаў ён. – *Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжою. За чые грошы? Не, каб да мяне прыйсці і пагаварыць!.. Ва ўніверсітэце 16 чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу».*

Як стала вядома “Народнай Волі” з дакладна інфармаванай крыніцы, такі паварот падзей не стаў нечым нечаканым для Іны Соркінай. Быццам яе аб гэтым папярэджвалі...

*“Версіі таго, што здарылася, ёсць, але гэта ўсяго толькі версіі*, – распавяла мне **Іна СОРКІНА**. – *Сапраўдныя матывы невядомыя. Я планую падаць апеляцыю, таму загада аб маім звальненні пакуль не было. Давайце дачакаемся канчатковага рашэння...”*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АФІЦЫЙНА

Прэс-сакратар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы **Алена КУЛЕШ** таксама пракаментавала “Народнай Волі” вышэйназваную сітуацыю.

– Думаю, наўрад ці вас задаволіць тое, што я скажу, – кажа яна.

**– Нас задаволіць любы каментарый.**

– Тады найперш хачу адзначыць, што гэта было не звальненне, а абранне на конкурснай аснове. Працэс правядзення конкурсу на замяшчэнне вакантнай пасады – гэта стандартная працэдура, якая ва ўніверсітэце існуе гадамі. І не толькі ў нашай ВНУ. Сама працэдура на факультэце праведзена ў адпаведнасці з палажэннем і была поўнасцю захавана. Як факт магу прывесці адну лічбу: усяго было 11 прэтэндэнтаў на 8 пасад, якія замяшчаліся.

**– Канчатковае рашэнне будзе прынята Саветам універсітэта?**

– Так, гэта адбудзецца 27 студзеня. І Іна Соркіна, наколькі мне вядома, мае права падаць апеляцыю. Апошняе слова скажа адміністрацыя ўніверсітэта.

З НАГОДЫ

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

# Калі палітык сам аддае ўладу...

У сваёй апошняй кніжцы “Знакі прыпынку” **Уладзімір Някляеў** напісаў пра **Барыса Ельцына**: *“Ён зрабіў дзве рэчы: даў свабоду і аддаў уладу...”*

У гісторыі адбываюцца істотна якасныя змены, калі палітык сам (!) аддае ўладу.

Гэтак зрабіў імператар Мікалай II – у выніку чаго лютаўская рэвалюцыя перайшла ў кастрычніцкую, і мы, беларусы, займелі спачатку БНР, а тады ўжо і БССР..

Адразу і не згадаю ўсіх палітыкаў, якія добраахвотна развіталіся з уладай, – мусіць жа, іх было не так і шмат, аднак жа яны былі і ёсць нават у нашы дні.

Адразу ўспамінаецца **Фідэль Кастра** і палкоўнік **Уга Чавес**...

І вось навіна з культурнага жыцця, якую днямі распаўсюдзілі некаторыя інтэрнэт-рэсурсы: Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр рыхтуе да пастаноўкі на ліпень 2014 года мюзікл пра былога прэзідэнта Венесуэлы Уга Чавеса.

Прызнаюся: гэты палітык мне падабаўся, было ў ім нешта ад **Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага;** ён быў з тых, хто не хаваецца за плечы іншых!

І апошнія ягоныя дні паказалі, што права кіравання дзяржавай не з’яўлялася для яго абсалютнай каштоўнасцю, і гэтую каштоўнасць, як звыклую рэч, ён і перадаў у іншыя рукі.

І вось нас чакае музычна-сцэнічны твор пра дзеяча не з нашай гісторыі!

Зразумела, чаму тэатр рыхтуе гэту пастаноўку: заказ ёсць заказ, а тэатр – дзяржаўная арганізацыя.

Аднак жа мне, аматару тэатральнага мастацтва, хочацца бачыць спектаклі пра жыццё вялікіх беларусаў; веру, такія спектаклі з’явяцца, і нашы акцёры ўвасобяць на сцэне вобразы нацыянальных падзвіжнікаў **Івана Луцкевіча, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Браніслава Тарашкевіча, Клаўдзія Дуж-Душэўскага,** дзякуючы якім Беларусь, як дзяржава, засталася ў свеце.

І зноў жа нашы маладыя рэжысёры могуць наблізіцца і да жыцця **Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча,** скарыстаўшы пры гэтым творчы вопыт **Барыса Луцэнкі, Валерыя Анісенкі, Віталя Баркоўскага, Уладзіміра Савіцкага**.

Зрэшты, гэта вельмі добра, што ў Мінску з’явіцца спектакль пра Уга Чавеса; я буду глядзець яго як сцэнічны твор пра палітыка, які пры жыцці аддаў уладу.

СМАЧНА ЕСЦІ!

# “Савушкіна прадукту” больш не будзе

## *Кампанія памяняла брэнд сваёй малочнай прадукцыі на «Савушкін»*

Перайменаванне асноўнага брэнда ніяк не адаб’ецца на назве самой кампаніі: адкрытае акцыянернае таварыства будзе па-ранейшаму звацца «Савушкін прадукт». Абноўлены лагатып паступова з’явіцца на ўпакоўках прадуктаў гандлёвай маркі «Савушкін» і ў рэкламных матэрыялах, звязаных з прадукцыяй кампаніі.

*– З пункту гледжання маркетынгу «прадукт» – гэта тавар ці паслуга, якія можна прапанаваць рынку і якія будуць задавальняць патрэбнасці спажыўцоў,* – пракаментавала змяненні начальнік упраўлення маркетынгу і рэкламы ААТ «Савушкін прадукт» **Алена Васянкова. –** *Адпаведна, гэта слова не ўнікальнае і не здольнае выступаць адметным элементам. Да таго ж за доўгі час існавання брэнда самі спажыўцы падказалі нам неабходнасць яго аптымізацыі, таму што называлі прадукты нашай маркі «Савушкін», а не «Савушкін прадукт».*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Переломный момент в спасении Беларуси

***(Окончание. Начало на 1-й стр.)***

Главный приоритет новой стратегии – безусловное следование принципу эволюционных изменений в развитии общества и государства. Общественную жизнь нужно не взламывать, а менять поступательно, прагматично и рационально и, главное, продуманно и спокойно.

Социум надо готовить к переменам, в том числе и политическим.

К ним должна быть подготовлена и сама политическая элита. Не противостояние и эскалация политического процесса, а диалог и сотрудничество являются для конструктивного крыла белорусской оппозиции главными приоритетами в решении политических, экономических, социальных и иных проблем, что будет не разъединять, а консолидировать общество, и в первую очередь все конструктивные силы белорусского политического процесса. Поэтому реализация нашей стратегии опирается на принципы четырех «К»: конструктивизм, компромисс, консенсус, консолидация.

Очевидно, что новую стратегию «За диалог и консолидацию», стратегию компромиссов и диалога, способны осуществлять представители конструктивно и креативно мыслящей части оппозиции и власти.

Ответственные за страну граждане, часть представителей руководящей элиты и многие активисты оппозиции давно понимают, что не только оппозиция нуждается в системном политическом месте, но и государство получит пользу от модернизации политической системы, в которой будет присутствовать контрэлита. Так давайте пробовать наладить в стране реальный политический процесс, когда все субъекты этого процесса играли бы реальную роль и представители оппозиции были бы представлены в парламенте, коридорах власти и т.д.

Полагаем, что новая стратегия является хорошим стартом в предстоящей избирательной кампании для формирования позитивного имиджа демократических кандидатов в депутаты как конструктивной и созидательной силы. Она позволяет формировать в общественном сознании имидж людей, которые болеют за страну и ее граждан, а не спекулируют на трудностях ради дешевого популизма. Кандидаты – сторонники новой стратегии выиграют в глазах абсолютного большинства избирателей. Как представители конструктивной оппозиции (важнейшего института развития и совершенствования любой зрелой политической системы), они будут формировать позитивный имидж всей демократической оппозиции, готовой брать на себя часть ответственности за развитие страны и укрепление белорусской государственности. Реализация новой стратегии остановит затянувшийся процесс маргинализации оппозиционных структур, поднимет их рейтинг, вернет оппозиции доверие людей.

Мы предлагаем демократическим кандидатам в депутаты местных Советов взять за основу своей деятельности принципы и подходы стратегии «За диалог и консолидацию» и положить в основу своих предвыборных программ следующие положения:

– коррупция в органах власти (доставшаяся нам в наследство еще от СССР и погубившая некогда могущественное государство), как никогда, угрожает нам и нашему молодому государству;

– надо прекратить практику формирования законодательной власти, в том числе местных Советов, из числа представителей исполнительной власти – директоров и управленцев. Их место не в Советах, а на заводах и фабриках;

– исполнительная власть на местах должна регулярно отчитываться перед налогоплательщиками об использовании государственных средств, особенно по исполнению жилищной программы и модернизации градообразующих производств;

– налоги, взимаемые с нас, должны идти на исполнение социальных программ, а не на подпитку коррупционных кланов чиновников разных уровней. Механизм формирования консолидированного бюджета и его расхода должен быть прозрачным и понятным для налогоплательщиков.

Поддержка стратегии «За диалог и консолидацию» уже на этапе местных выборов позволит сформировать позитивную идеологическую и мировоззренческую площадку для следующих электоральных кампаний, в том числе для альтернативного кандидата в президенты Республики Беларусь от конструктивного крыла белорусской оппозиции в 2015 году.

Реализация новой стратегии в перспективе может стать переломным моментом, когда диалог и Новая политика превратятся в главный тренд развития белорусского политического процесса. Для политиков и гражданского общества это откроет новые возможности по укреплению суверенитета и независимости нашего государства, повышению благосостояния белорусов.

Реализация новой стратегии позволит элите и контрэлите принимать консолидированные решения по поводу главных цивилизационных задач, стоящих перед переходным белорусским обществом, приоритетными среди которых являются государственный суверенитет, формирование национального государства, культурная и духовая идентичность белорусской нации. Новые подходы уже в краткосрочной перспективе помогут консолидированно формулировать мировоззренческие и идеологические перспективы развития белорусской нации и находить адекватные ответы на вызовы глобального мира.

**Анатолий ЛЕВКОВИЧ, председатель Оргкомитета Республиканского общественно-просветительского объединения (РОПО) «Социал-демократы за диалог и консолидацию»,**
**Александр МИКУЛИН, заместитель председателя Оргкомитета.**

